# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 8 (26) || 15-га ЧЭРВЕНЯ 1929 году || № 8 (26)


## З Ь М Е С Т

### А. Пастановы III-га Пленуму ЦП Саюзу—ад 29-30 мая 1929 г.



### Б. Дырэктывы ЦП.



## А. Пастановы III-га пленуму ЦП Саюзу сельгаслесрабочых.

### 1. Аб выніках і пэрспэктывах росту саюзу

1. Заслухаўшы даклад аб выніках і пэрспэктывах далейшага росту саюзу, III-ці Пленум ЦП IX скліканьня адзначае ўзмацненьне за апошні год тэмпу росту саюзу, які павялічыўся ў параўнаньні з 27 г. на 100 проц. (за 27 г. прырост саюзу, ня лічучы пераданых гарнякоў, складаў 5000, а за 28 г.—10000 чал.), у выніку чага саюз вырас да 50. 479 чал., што складае 25 проц. агульнага ліку працуючых па найму ў сельскай і лясной гаспадарцы.

Асобна па групе батракоў і пастухоў саюз за час ад VIII-га Зьезду вырас з 4. 600 чал., да 14.063, што складае 14,5 проц. ад агульнага ліку батракоў і пастухоў і 28 проц. ад ліку членаў аюзу.с

Такм чынам, рост саюзу ішоў пераважна за лік пралетарскае і паўпралетарскае часткі батрацтва, дзякуючы чаму батрацкая група ў складзе саюзу павялічылася з 14 да 28 проц. і займае першае месца.

2. Разам з тым Пленум ЦП саюзу лічыць маючыйся тэмп росту саюзу, а таксама ахоп батрацтва прафсаюзным членствам зусім недастатковым і адначасова адзначае:

а) Наяўнасьць засьмечанасьці паасобных саюзных арганізацый непралетарскім элемэнтам, асабліва па групе лесарубаў і лясьнікоў, якая (засьмечанасьць) у аддзельных выпадках даходзіць да 50 проц. складу чл. саюзу, аб'яднаемых рабачкомамі (Бесядскі рабачкоўлесаруба, Тураўскі рабачком сплма

шчыкаў і Нараўлянскае Л-ва Мазырскай акругі).

б) Слабасьць сыстэматычнае работы па адсейваньню непралетарскіх элэмэнтаў, якія выпадкова папалі ў прафсаюз. або, працуючы 3-4 гады на лесараспрацоўках і сплаве, паднялі свае гаспадаркі да ўзроўню серадняцкіх і нават заможных.

в) Несваечасовы разгляд заяў аб прыёме ў саюз і ў сувязі з гэтым зацяжка афармленьня членства, што часткова адбіваецца на тэмпе росту.

г) Адсутнасьць належнае ўвязкі ў рабоце па вярбоўцы ў прафсаюз з работаю па абароне эканомічных інтарэсаў батрацтва.

3. Усямернае ўзмацненьне арганізуючай ролі і ўплыву сельгаслесрабочых у грамадзка-палітычным жыцьці вёскі, падвышэньне грамадзка-палітычнай актыўнасьці іх і ўзмацненьне арганізаванай барацьбы батрацтва за свае эканомічныя і правовыя інтарэсы, можа быць забясьпечана пры ўмове аб'яднаньня ў шэрагах саюзу пераважна большае часткі пралетарыяў і паўпралетарыяў вёскі. Выходзячы з гэтага, Пленум ЦП пастанаўляе: ахапіць прафсаюзным членствам на працягу 2-х год пераважную большасьць сельгаслесрабочых, для якіх работа па найму зьяўляецца адзінаю (пралетарыі), альбо галоўнаю (паўпралетарыі) крыніцаю для жыцьця, а на працягу 29 г. поўнасьцю ахапіць прафсаюзам пралетарскую частку сельгаслесрабочых.

Пры чым, у сувязі з тым, што групы рабочых савгасаў, лясьніцтв і дробных прадпрыемств на вёсцы амаль поўнасьцю ахоплены прафсаюзным членствам, а таксама ў сувязі з нязначнасьцю пралетарскае праслойкі сярод лесарубаў, асноўнаю базаю далейшага росту саюзу павінны зьяўляцца батрацтва і пастухі.

4. Для выкананьня задач, пастаўленых у галіне росту саюзу, Пленум прапануе:

а) Узмацніць работу па вярбоўцы батрацтва і пастухоў у прафсаюз, увязваючы работу па вярбоўцы з эканомічнай і культурна-выхаваўчай работай саюзу.

б) Наладзіць сваечасовы разгляд і вырашэньне пытаньняў аб прыёме ў прафсаюз, пры чым, як правіла, прыём і канчатковае афармленьне прафчленства (выдача кніжак пасьля пастановы сходу аб прыёме) павінна заставацца за рабачкомамі, а там, дзе маюцца прафупаўнаважаныя, пытаньні прыёму вырашаюцца на агульных сходах чл. саюзу і канчаткова афармляюцца ў Акраддзяленьнях саюзу. Тэрмін ад падачы заявы да атрыманьня кніжкі ні ў якім разе не павінен быць больш аднаго месяца.

в) Узмацніць работу па сыстэматычнаму адсейваньню, у парадку бягучае работы, непралетарскіх элемэнтаў, выпадкова папаўшых у саюз.

г) Праз райінструктараў устанавіць сыстэматычны нагляд за правільнасьцю прыёму ў члены саюзу ў рабачкомах і ў выпадках патрэбнасьці адмены пастановы рабачкомаў і сходаў, райінструктары даводзяць аб гэтым да ведама Акраддзяленьняў, па вырашэньню Акраддзяленьняў пытаньні неправільнага прыёму перадаюцца на перагляд агульнага сходу.

д) На падставе дырэктыў ЦК саюзу, правесьці праверку складу беспрацоўных членаў прафсаюзу, для чаго Прэзыдыуму ЦП распрацаваць і паслаць Акраддзяленьням канкрэктныя паказаньні.

е) У адпаведнасьці з ростам саюзу пашырыць сетку сельрабачкомаў саюзу арганізоўваючы іх у першую чаргу там, дзе працуюць с/ прафупаўнаважаныя пры наліччы ня менш 15-ці членаў прафсаюзу. У сувязі з гэтым Пленум даручае Прэзыдыуму ЦП і Акраддзяленьням саюзу ў месячны тэрмін распрацаваць плян пашырэньня сеткі сельрабачкомаў на 29 год і намеціць мерапрыемствы па ўзмацненьню фінансавае базы с/рабачкомаў.

ж) Даручыць Прэзыдыуму разаслаць па рабачкомах інструкцыю ЦК саюзу аб рэгуляваньні росту саюзу.

з) Правесьці дадаткова больш шырокае вывучэньне якаснага складу батрацтва і пастухоў, асабліва ў часцы сувязі з гаспадаркаю і ўзростнага складу з тым, каб больш пэўна вызначыць базу далейшага росту саюзу і наладзіць работу па рэгуляваньню росту саюзу.

## 2. Аб працдагаворнай кампаніі 1929 г.

Заслухаўшы інфармацыі членаў Пленума аб ходзе працдагаворнай кампаніі сярод батрацтва і пастухоў, III-ці Пленум ЦП адзначае, што працдагаворная кампанія разгортваецца надзвычайна слаба і нават маецца пагроза нявыкананьня плянавых заданьняў ЦП саюзу па заключэньню дагавораў на 1929 год.

Яшчэ і да гэтага часу маюць факты распаўсюджаваньня „Часовых Правіл" на кулацкія гаспадаркі і наогул якасьць работы па абароне эканомічных інтарэсаў батрацтва ў кулацкіх гаспадарках вельмі нездавальняючая. Саюзныя органы не завострылі ўвагі ўсіх членаў саюзу і шырокіх батрацкіх мас на пытаньні працдагаворнай работы.

Асобна Пленум адзначае недапушчальную слабасьць гэтай работы ў Полацкай акрузе.

Выходзячы з гэтага, III-ці Пленум ЦП пастанаўляе:

1. Абавязаць Прэзыдыум ЦП, Акрпраўленьні і ўсе нізовыя арганізацыі саюзу ўсю ўвагу і практычную работу на працягу чэрвеня і ліпеня м-цаў падпарадкаваць выключна разгортваньню і ўзмацненьню працдагаворнай работы з тым, каб цалкам выканаць плянавае заданьне саюзу ў гэтай галіне (60 тыс. працдагавораў), рашуча дабіваючыся ажыцьцяўленьня саюзных запатрабаваньняў па зарплаце і ахове працы батракоў і пастухоў, асабліва ў кулацкіх гаспадарках.

2 Разам з разгортваньнем работы па заключэньню дагавораў зараз жа праз інспэкцыю Працы пачаць праверку заключэных дагавораў, у першую чаргу ў кулацкіх гаспадарках, прымаючы самыя рашучыя меры да скасаваньня і пеpaзаключэньня кабальных дагавораў.

3. Прыступіць да заключэньня працдагавораў на падзённых і часовых рабочых у сялянскіх гаспадарках, праводзячы гэту работу на падставе выдадзенага законадаўства і дырэктыў ЦП саюзу.

4. Пры заключэньні дагавораў асаблівую ўвагу зьвярнуць на абарону інтарэсаў малалетніх батракоў і пастухоў. Вясьці рашучую барацьбу з эксплёатацыяй малалетніх, прыцягваючы наймальнікаў да адказнасьці за эксплёатацыю.

5. Для ўзмацненьня тэмпу працдагаворнай работы, мабілізаваць усе сілы ЦП, Акраддзяленьняў, райінструктараў, с/г Інспэкцыю Працы для непасрэднай работы і практычнай дапамогі сельрабачкомам у гэтай рабоце, для чаго камандыраваць у раёны на $1^1/_2$ м-цы членаў Прэзыдыуму і адказных работнікаў ЦП і Акраддзяленьняў і прыцягнуць райінструктараў да непасрэднага заключэньня дагавораў.

6. Паказаць Полацкаму Аддзяленьню саюзу на недапусьцімасьць няўважлівых адносін па выкананьню дырэктыў ЦП і прапанаваць безадкладна прыступіць да праверкі выкананьня гэтых дырэктыў і да арганізацыі дапамогі сельрабачкомам у працдагаворнай рабоце.

7. Прапанаваць Прэзыдыуму ЦП і Акраддзяленьням пры выяўленьні нядбайных адносін з боку саюзных органаў і інструктараў да працдагаворнае работы, прымаць самыя рашучыя меры ўзьдзейніч аньня аж да зьняцьця з працы, рашуча вылучаючы замест зьнятых батракоў і пастухов, апраўдаўшых сябе на нізовай саюзнай рабоце.

8. Даручыць Прэзыдыуму ЦП сабраць канкрэтныя матар'ялы аб ухіленьні савецкіх органаў (РВК, с/с) ад дапамогі ў рабоце союзу сярод батрацтва і паставіць пытаньне перад вышэйшымі савецкімі органамі аб прыцягненьні іх да адказнасьці па савецкай лініі.

## 3. Аб пэрспэктывах разьвіцьця буйных саўгасаў у БССР.

Заслухаўшы даклад аб пэрспэктывах разьвіцця новых буйных саўгасаў у БССР, Пленум ЦП адзначае вялізарнасьць гэтага мерапрымства ў справе ўзмацненьня і пашырэньня сацыялістычнага сэктару БССР.

Арганізуемыя новыя буйныя савецкія гаспадаркі павінны быць энэргетычнымі і с.-г. індустрыяльнымі базамі-фабрыкамі тэхнічных культур гатунковага насеньня і прадуктаў жывёлаводтва. Арганізацыя максімальна мэханізаваных буйных саўгасаў накладае на іх выразны абявязак садзейнічаць калектывізацыі, вытворчаму каапэраваньню і разьвіцьцю вытворчасьці ўсіх галін вакалічны беднядцка-серадняцкіх гаспадарак.

Прыняўшы да ведама, што Трэст ўжо прыступіў да фактычнага ажыцьцяўленьня пастановы ўраду і партыі і пачаў арганізацыю першай буйнай савецкай гаспадаркі „імя 10-цігодзьдзя БССР“ дзе ўжо з вясны 1929 г. вытвараецца пасеў на плошчы каля 3500 гэктараў. Пленум зьвяртае ўвагу Белсельтрэсту на неабходнасьць пры далейшай арганізацыі другіх савгасаў улічыць наступныя моманты:

1. Праца па арганізацыі новых савгасаў павінна быць разгарнута так, каб у працягу пяцігодкі была асвоена ўся намечаная пад новыя савгасы плошча (50.000), для чаго НКЗ неабходна перадаваць пад савгасы плошчы пасьля іх падрыхтоўкі ў першую чаргу, зьвярнуўшы ўвагу НКЗ на сваечасовае іх (плошчаў) земляўпарадкаваньне. Разам з тым паставіць пытаньне перад НКЗБ аб адшуканьні новых фондаў для пашырэньня будаўніцтва новых буйных савгасаў.

2. Белсельтрэсту неабходна зараз-жа прыступіць да распрацоўкі падрабязковага пляну пабудовы новых савгасаў на падставе ўсіх дасягненьняў навукі і тэхнікі з максімальнай мэханізацыяй і высокай вытворчасьцю ўсіх галін гаспадаркі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на сельска-гаспадарчую індустрыялізацыю, бо толькі на падставе дэталёва прапрацаваных плянаў і пры сваечасовым водпуску сродкаў будзе забясьпечана нармальная арганізацыя новых савгасаў.

3. У сувязі з тым, што арганізацыя працы і вытворчасьці ў савгасах і, асабліва ў новых, павінна быць паказальнай, Пленум лічыць неабходным мець у апараце Сельтрэсту патрэбны высока-кваліфікаваны пэрсанал па будаўніцтву новых савгасаў і па арганізацыі вытворчасьці і эканомікі працы.

4. Новыя буйныя савгасы, як культурныя цэнтры, павінны быць пабудаваны на базе высокай тэхнікі і максімальнай мэханізацыі ўсіх галін гаспадаркі, пагэтаму Белсельтрэсту і ЦП саюзу прыступіць да сваечасовай падрыхтоўкі высока-кваліфікаванай рабочай сілы, шляхам арганізацыі розных курсаў: кіраўнікоў, трактарыстых, рабочых па рамонту с/г машын, іншых рабочых і спэцыялістых.

5. Прымаючы пад увагу, што арганізацыя новых буйных савгасаў у БССР вытвараецца ўпершыню і што яны арганізуюцца выключна на балотных глебах, у мэтах плянавасьці і эканоміі сродкаў на будаўніцтва, даручыць Белсельтрэсту і Прэзыдыуму ЦП прыступіць да распрацоўкі канкрэктнага пляну будаўніцтва буйных савгасаў і да выработкі стандартных найбольш танных тыпаў жыльлёвых і гаспадарчых будынкаў, прадугледзіўшы ў пляне пабудову сталовак, клюбаў, інтэрнатаў, амбуляторый школ, памяшканьняў пад ясьлі і пляцоўкі і г. д., паставіўшы гэты плян на абгаворэньне Прэзыдыуму ЦП.

Белсельтрэсту, Прэзыдыуму ЦП і Бабруйскаму Акраддзяленьню ў месячны тэрмін прыняць усе захады да ўкамплектаваньня савгасу „імя 10-цігодзьдзя БССР“ кваліфікаванай рабочай сілай і спэцыялістымі, заслухаўшы даклад аб гаспадарчай і прафсаюзнай рабоце ў гэтым савгасе на Прэзыдыуме ЦП.

## 4. Аб ходзе вясеньняй пасеўнай кампаніі і задачах па падрыхтоўцы да асеньняй пасеўнай кампаніі.

Заслухаўшы даклад Наркамзему аб ходзе вясеньняй с.-г. кампаніі і задачах па падрыхтоўцы да васеньняй, Пленум ЦП сельска-гаспадарчых і лясных рабочых КАНСТАТУЕ:

а) значную зацікаўленасьць насельніцтва па адбудове сельскае гаспадаркі, сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі праз масавае каапэраваньне і калектывізацыю, уздым ураджайнасьці, пашырэньне пасеўнай плошчы і г. др.;

б) у параўнаньні з мінулым годам было больш сваечасова завезена на месцы насеньня збожжавых культур, мінэральнага ўгнаеньня, с.-г. прылад, але побач з гэтым назіралася недастатковая праца па падрыхтоўцы на мясцовым рынку насеньня бульбы, ячменю, вікі і інш.;

в) савгасы і калгасы ў гэтым годзе атрымалі значныя магчымасьці пашырыць пасеўную плошчу, уздымаць ураджайнасьць, але на гэтых задачах не заўсёды была сканцэнтравана ўвага кіруючых органаў савгасаў і калгасаў;

г) неабходна прызнаць яшчэ абсолютна недастатковую працу па сацыялістычным спаборніцтве паміж савгасамі, калгасамі, пасёлкамі і індывідуальнымі бедняцкімі і серадняцкімі гаспадаркамі, і што гэта работа яшчэ да гэтага часу не атрымала рашучага праламленьня ў савгасах, калгасах і інш.;

д) прызнаць абсолютна недастатковай праведзеную працу па падрыхтоўцы да с.-г. выстаўкі і конкурсу на лепшы с.-г. раён і што яшчэ слаба прымаюць удзел усе прафсаюзныя арганізацыі;

е) ня гледзячы на тое, што галіне жывёлаводзтва ва ўмовах БССР займае значнае месца ў народнай гаспадарцы, на гэтым пытаньні ня была сканцэнтравана ўвага ўсіх грамадзкіх арганізацый, спэцыялістых і інш.

Пры правядзеньні васеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі, Пленум ЦП сельска-гаспадарчых і лясных рабочых прызнае асноўнымі задачамі:

а) пашырэньне агульнай пасеўнай плошчы азімых культур на 1,5 проц., з іх у савгасах на 2,6 проц., калгасах на 63,2 проц., у сялянскіх гаспадарках на 1,04 цроц., за лік уцягненьня ў агульную плошчу аблогаў, раскарчовак, мэліараваных плошчаў і інш.;

б) павышэньне ўраджайнасьці азімых на 7 проц. у індывідуальных сялянскіх гаспадарках, на 12 проц. у калгасах на 18 проц. у савгасах;

в) пашырэньне сацыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы, праз шырокую арганізацыю вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньняў, узмацненьне існуючых савецкіх і калектыўных гаспадарак, забеспячэньне сацыялістычнага сэктару ў першую чаргу сродкамі вытворчасьці, агрыкультурным абслугоўваньнем і г. д.;

г) разгарнуць шырока агратэхнічныя мерапрыемствы ў сельскай гаспадарцы, сваечасовы ўздым папару і засеў, ачысьціць насеньне ў разьмеры 50 проц., правесьці кампанію па зяблевай воранцы, закласьці ш м а т п о л ь л е на плошчы 180 000 гэктараў і ў калектыўных гаспадарках на ўсе 100 проц;

д) разгортваньне працы па сацыялістычным спаборніцтву паміж паасобнымі савгасамі, калгасамі, пасёлкамі і паасобнымі сялянскімі гаспадаркамі;

е) прыняцьце рашучых мер да падрыхтоўкі да сельска-гаспадарчай выстаўкі і конкурсу на лепшы сельска-гаспадарчы раён.

Для пасьпяховага ажыцьцяўленьня намечаных задач Пленум ЦП ДАРУЧАЕ:

1. Прэзыдыуму ЦП заслухаць вынікі праведзенай вясеньняй кампаніі і на падставе іх распрацаваць дырэктывы для васеньняй кампаніі 1930 г.

2. Наркамзему прыняць меры да выданьня неабходнай папулярнай сельска-гаспадарчай літаратуры, мабілізуючы шырокія колы працоўных па сацыялістычнай адбудове сельскае гаспадаркі.

3. Белсельсаюзу, Наркамзему забясьпечыць сваечасова нарыхтоўку і завоз на месца гатунковага насеньня, угнаеньня, сродкаў вытворчасьці.

4. Прапанаваць акруговым аддзяленьням саюзу прыняць меры да сваечасовай падрыхтоўкі працы па правядзеньні васеньняй с.-г. кампаніі на мясцох праз заслухоўваньне дакладаў Акрза, каапэрацыі, упаўнаважаных савгасаў і г. д.

5. Даручыць бюро сэкцыі спэцыялістых распрацаваць дырэктывы па лініі саюзу аб удзеле ўсіх спэцыялістых сельскае гаспадаркі па правядзеньню васеньняй с.-г. кампаніі.

6. Даручыць Прэзыдыуму ЦП заслухаць даклад Выставачнага Камітэту аб падрыхтоўцы да выстаўкі і распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы ўдзелу саюзу ў падрыхтоўцы да выстаўкі.

7. Даручыць Прэзыдыуму ЦП распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па сацыялістычным спаборніцтву паміж савгасамі.

8. Даручыць Прэзыдыму разам з НКЗ распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ўцягненьню шырокіх колаў савецкай грамадзкасьці і інш. прафсаюзных арганізацый па правядзеньню васеньняй с.-г. кампаніі, разгарнуўшы працу шэфвобчастваў, рабочых брыгад і інш.

9. Даручыць Наркамзему і НДІ, як мага хутчэй, разгарнуць працу Аддзелаў прыстасаваньня пры вопытна-дасьледчых станцыях.

10. НКЗ разам з НКА і да гэтага часу практыкаваць курсы па падрыхтоўцы, бедняцкага і серадняцкага насельніцтва, пашырыўшы іх колькасьць.

11. НКЗ праверыць дадзеныя раней паказаньні заморганам аб скарыстаньні спэцыялістых па прызначэньню, дабіваючыся ажыцьцяўленьня ўжо дадзеных дырэктыў.

12. Наркамзему, Белсельтрэсту і Белкалгассаюзу вылучыць магчымую колькасьць савгасаў і калгасаў з лепшай пастаноўкай працы для экскурсій сялян і праз практычны паказ укараняць у шырокія колы сялянства сацыялістычнае земляробства.

13. Даручыць Прэзыдыуму ЦП заслухаць на бліжэйшым пасяджэньні даклад НДІ і практыкаваць заслухоўваньне паасобных дасьледчых станцый.

14. Даручыць акруговым аддзяленьням саюзу і НКЗ пры правядзеньні васеньняй с.-г. кампаніі прыняць рашучыя меры да палепшаньня кармавога пытаньня праз палепшаньне сенажацяў, закладку сіласаў, пашырэньне караньплодаў.

15. Даручыць НКЗ, БСТрэсту і Белкалгассаюзу і Прэзыдыуму ЦП дагаварыцца з Белдзяржкіно аб выпуску кінокарцін па пытаньнях сацыялістычнай перабудовы вёскі.

### 5. Аб распаўсюджваньні друку сярод членаў саюзу.

1. Выходзячы з таго, што друк зьяўляецца адным з галоўных сродкаў у справе арганізацыі вытворчага і клясавага выхаваньня і абароны матар'яльных інтарэсаў сельгаслесрабочых і батрацтва, што друк дапамагае мабілізацыі мас навакол агульных задач сацыялістычнага будаўніцтва і ўзмацненьня сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, што друк уцягвае масы ў сацыялістычнае спаборніцтва, Пленум ЦП саюзу Сельгаслесрабочых прапануе ўсім саюзным органам зрабіць справу ўсямернага пашырэньня індывідуальнай і калектыўнай падпіскі на газэты і на пэрыядычную літаратуру, асабліва на „Беларускі Батрак“, „Батрак“ і іншыя выданьні ЦК саюзу аднэй з важнейшых штотыднёвых сваіх задач.

2. Пленум адзначае наступныя недахопы ў распаўсюджваньні друку:

а) да гэтага часу саюзныя органы не займаліся распаўсюджваньнем друку, а падпіска на органы друку ішла самацёкам;

б) да гэтага часу наглядаецца шмат выпадкаў неакуратнай дастаўкі газэт падпішчыкам;

в) слабае пашырэньне індывідуальнае падпіскі на „Беларускі Батрак“ і зьнішчэньне падпіскі на газэту „Батрак“ (Орган ЦК саюзу) і слабая ўвага распаўсюджваньня індывідуальнай падпіскі з боку саюзных органаў у ва ўсіх акругах, за выключэньнем Менскай і Полацкай, дзе падпіска дасягае 1 экз. на 3-х членаў саюзу;

г) зусім нездавальняючая арганізацыя індывідуальнай падпіскі сярод батрацтва, сплаўшчыкаў, рабочых торпараспрацовак, дробных прадпрыемств і спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі;

д) недастатковая падпіска спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі на спэцыяльныя часопісы, выдаваемыя ЦК саюзу (60 проц. ад ліку спэцыялістых);

е) недастатковая колькасьць саюзнай літаратуры на беларускай і іншых нацыянальных мовах у саюзных бібліатэках, клюбах, хатах-чытальнях і г. д.

3. Выходзячы з гэтага, Пленум ЦП прапануе прыняць наступныя меры:

а) пашырыць падпіску на агульнапалітычныя і прафэсыянальныя газэты „Праўда“, „Зьвязда“, „Труд“ і г. д.

б) пашырыць падпіску на газэту „Батрак“ і іншыя выданьні ЦК саюзу („Лясны рабочы“, „Батрачка“, „Батрацкая Прафшкола“ і г. д.);

в) прапанаваць сэкцыям спэцыялістых ЦП саюзу і мясцовым сэкцыйным органам дабіцца да канца году 100% падпіскі спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі на часопісы „Аграном“, „Лесавод“ і „Земляўпарадкавацель“;

г) узмацніць індывідуальную падпіску на „Беларускі Батрак“ і дабіцца ва што бы то ні стала індывідуальнай падпіскі да 20.000 экз. у гэтым годзе, для чаго:

а) паставіць бліжэйшай практычнай задачай усіх саюзных органаў дабіцца 100 проц. падпіскі на „Беларускі Батрак“ ва ўсіх сельска-гаспадарчых і лясных прадпрыемствах і ўстановах (савгасы, лясьніцтвы, Наркамзем, АКРЗА і інш. установы);

б) у сувязі з адсутнасьцю сталага.

месцажыхарства сплаўшчыкаў, у час сплаву выпісаць за кошт саюзу ў месцы прыпынку сплаўшчыкаў „Беларускі Батрак“, з разьліку адзін экз. на трох сплаўшчыкаў, і арганізаваць сярод іх падпіску на „Беларускі Батрак“ па хатніх адрэсах на час пасьля сканчэньня іх працы на сплаву;

в) асабліва зьвярнуць увагу на пашырэньне падпіскі на „Беларускі Батрак“ на торпараспрацоўках, мэліарацыйных работах, сярод местачковых рабочых і работніц і спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі;

г) арганізаваць выпіску „Беларускага Батрака“, як кіруючага саюзнага органу, усімі саюзнымі органамі, саюзнымі клюбамі, чырвонымі куткамі, хатамі-чытальнямі і г. д. за кошт саюзных сродкаў і сродкаў культфондаў;

д) прапанаваць рэдакцыі „Беларускага Батрака“ высьветліць прычыны частых выпадкаў неакуратнай дастаўкі газэты і прыняць меры, каб падпішчыкі „Беларускага Батрака“ газэты атрымлівалі своечасова.

5. а) Пленум прапануе саюзным органам павялічыць выпіску саюзнай літаратуры для бібліатэк і іншых саюзных культ. установ, асабліва на беларускай мове і іншых нацыянальных мовах (яўрэйскай, польскай, і латыскай).

б) Прэзыдыуму ЦП прыступіць да выданьня саюзнай літаратуры на беларускай і іншых нац. мовах, галоўным чынам, па пытаньнях вытворчага выхаваньня сельгаслесрабочых, абароны матар'яльных інтарэсаў батрацтва (дагавор, сацыяльнае страхаваньне і г. д.) і па пытаньням сацыялістычнага будаўніцтва сельскае і лясное гаспадаркі.

в) Вывучыць становішча саюзных бібліатэк і прыняць захады да папаўненьня іх папулярнай палітычнай, а таксама прафсаюзнай літаратурай, зьвярнуўшы ўвагу на ўкамплектаваньне бібліатэк-перасовак.

## Аб абслугоўваньні спэцыялістых на вёсцы ў сувязі з ліквідацыяй РК саюзу і Райбюро спэцыялістых.

*(Пастанова Прэзыд. ЦП ад 5/VI-29 г.)*

1. У мэтах лепшага культурнага і эканомічнага абслугоўваньня спэцыялістых у раёнах, у раёнах, дзе маюцца райінспэктары, увесьці інстытут райупаўнаважаных па рабоце сярод спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі.

2. Райупаўнаважаныя па рабоце сярод спэцыялістых абіраюцца на раённых сходах спэцыялістых усіх сэкцый у парадку грамадзкае нагрузкі.

3. Упаўнаважаныя па рабоце сярод спэцыялістых працуюць пад кіраўніцтвам вышэйстаячых агульна-саюзных і сэкцыйных органаў (Акраддзяленьні саюзу, Акрбюро сэкцый, а па Менакрузе—ЦП саюзу і ЦБ сэкцый), увязваючы ўсю работу з раённымі саюзнымі інструктарамі.

4. Збор аднапроцантных адлічэньняў у сэкцыі ўтвараецца праз тыя рабкомы, дзе спэцыялістыя састаяць на вучоце.

5. Даручыць Акр. Аддзелу і ЦБ сэкцый даць паказаньні аб арганізацыі практычнай работы сярод спэцыялістых у раёнах.

## Б. Дырэктывы ЦП

*Усім Акруговым Аддзяленьням саюзу, Рабачкомам, Акруговым і мясцовым бюро сэкцый спэцыялістых.*

**Паважаныя таварышы!**

Пяцігадовы плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў БССР мае вялізарнейшае значэньне для ўсіх працоўных нашае краіны. Гэтым плянам наша Камуністычная партыя, наш рабоча-сялянскі ўрад намецілі практычныя мерапрыемствы па перабудове, па рэканструкцыі нашае сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах: пабудова буйных сельскіх гаспадарак, калгасаў, каапэрацыйных аб'яднаньняў і агульнае каапэраваньне ўсяго насельніцтва. Ажыцьцяўляючы гэты плян разам з пяцігадовым плянам разьвіцьця нашай прамысловасьці, рабочая кляса і сялянства ўсяго СССР усё шырэй і шырэй адчыняюць дзьверы да сацыялізму і канчаткова зьнішчаюць капіталістычныя элемэнты ў нашай гаспадарцы—у нашым жыцьці.

Посьпех ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну ў асноўным залежыць ад усіх працоўных. Пагэтаму кожны працоўны павінен ведаць і добра ведаць тыя мерапрыемствы, якія намечаны плянам, зразумець іх і тады, вядома, уся ўвага працоўных, усё яго жыцьцё будзе сканцэнтравана навакол выкананьня нашага пяцігадовага пляну.

Хто павінен азнаёміць сельгаслесрабочых, батракоў, пастухоў, беднякоў і серадлякоў сялян з плянамі? Наш актыў, сьвядомы прафпрацаўнік, спэцыяліст-аграном, земляўпарадкавацель, мэліаратар, лесавод, сьвядомы член саюзу, кіраўнік савецкае гаспадаркі, сьвядомы член камуны, калектыву, арцелі. Гэта наш агульны рэвалюцыйны абавязак.

ЦП саюзу сельгаслесрабочых, зьмяшчаючы ніжэй тэзісы для прапрацоўкі пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў БССР, прапануе:

а) дэталёва азнаёміцца з імі і на шырокіх сходах азнаёміць з мерапрыемствамі пляну рабоча-батрацкія і сялянскія масы;

б) Акраддзяленьні і рабачкомы сумесна з спэцыялістымі зараз-жа павінны прапрацаваць матар'ялы па пяцігодцы, увязаўшы іх з сучасным разьвіцьцём гаспадаркі, каб канкрэтна, сваечасова ажыцьцявіць усе мерапрыемствы, прадугледжаныя па пяцігодцы;

в) з мэтай найхутчэйшага прыстасаваньня на мясцох разьвіцьця сельскае гаспадаркі, прадугледжанага па пяцігодцы, саюзныя органы сумесна з зямельнымі органамі павінны з свайго боку вынесьці канкрэтныя прапановы наконт сваечасовага правядзеньня адпаведных мерапрыемстваў з боку належачых органаў. Прыняць усе меры да іх ажыцьцяўленьня, захоўваючы строгае правядзеньне клясавае лініі;

г) Акраддзяленьням сумесна з земорганамі па прапрацоўцы матар'ялаў даць свае канкрэтныя паказаньні мясцом. Матар'ял пяцігадовага пляну павінен прапрацоўвацца ня ўвесь адразу, а па частках, прыкладна, па 3-4 тэмы на агульных сходах рабочых і сялян.

Усе матар'ялы з канкрэтнымі прапановамі з месц павінны паступаць у Акраддзяленьне і, пасьля распрацоўкі ў акругах, адсылаюцца ў ЦП саюзу.

Нам. Старшыні ЦП саюзу
Сельгаслесрабочых **Шчэмялёва**

Нам. Заг. АТЭ **Сізоў**

## ТЭЗІСЫ

**для дакладу па 5-цігодняму пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР.**

1. Пяцігодка праароблена на аснове дырэктыў 12-га зьезду КП(б)Б і СНКБ, а таксама поўнасьцю ўвязана з пяцігадовым плянам усяго СССР.

2. У адпаведнасьці з агульнымі задачамі сацыялістычнае перабудовы народнае гаспадаркі павінна быць наступнае;

а) максімальнае павялічэньне сел.-

гас. прадукцыі шляхам падвышэньня ўраджайнасьці, усіленьне інтэнсіўнасьці вытворчасьці сельскае гаспадаркі, пашырэньне зямель сельска-гаспадарчага карыстаньня;

б) арганізацыя дзяржаўнага землеробства і шпаркае разгортваньне калектывізацыі вытворчага каапэраваньня сялянства;

в) падвышэньне трудаёмкасьці сельскае гаспадаркі ў мэтах зьмягчэньня аграрнай перанасялёнасьці.

Усе мерапрыемствы павінны праводзіцца пры садзейнічаньні гаспадарчага ўзмацненьня бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і асабіста матар'яльнай дапамогі беднаце.

3. БССР знаходзіцца ў раёне, дзе сельская гаспадарка павінна быць інтэнсіўнай, арганізацыя вытворчасьці павінна ісьці па лініі разьвіцьця валакністага льнаводства, корняклубнеплодаў (бульба, карм. буракі), палявога травасеяньня, падвялічэньня буйнай малочнай жывёлы і скарасьпелага сьвінаводства. Разьвіцьцё дробных працаёмкіх экспартных галін як садоўніцтва, птушкаводства, рыбная гаспадарка і інш.

4. У БССР тры раёны, якія па тыпу с/г вытворчасьці павінны мець розныя напрамкі:

1) паўночная і паўночна-усходная частка БССР—разьвіваецца валакністае ільнаводства, канюшына-насенная, палявое травасеяньне і кармавыя буракі. Шырокае разьвіцьцё малочнай гаспадаркі. Скарасьпелая сьвінагадоўля ў невялікай колькасьці.

2) Сярэдняя Паўднёва-Усходная частка БССР—разьвіцьцё прамысловай бульбы ў буйным разьмеры. Палявое травасеяньне і кармавыя буракі і пры палепшаньні лугоў разгортваецца малочная гаспадарка і сьвінаводства.

3) Паўночна-Заходняя частка БССР—палесьсе з пясчанымі глебамі, з бальшымі выганамі (лес, балота) ня мае базы таварнага паляводства, тут разьвіваецца мяса-нагульнае жывёлаводства. У пэрспэктывы стварэньне кармавой базы на забалочных тарпяных глебах, шляхам мэліарацыі з прымяненьнем тукавых угнаеньняў, на базе гэтага разьвіцьце малочнай жывёлы. Магчыма разьвіцьцё канаплі.

У некаторых мясцох паказаных раёнаў, бязумоўна, могуць быць некаторыя перамяшчэньні тых ці іншых культур, у залежнасьці ад характару глебы і эканомічных умоў.

Прыгародныя раёны прыспасабліваюцца да забесьпячэньня гораду малатранспартабельнымі прадуктамі: малако, бульба, гародніна і г. д.

Суадносіна культур у акругох БССР у пачатку і канцы пяцігодзьдзя 1927/28-1932/33 г. (гл. дадатак).

К канцу пяцігодзьдзя павялічэньне пасеўнай плошчы пашыраецца на 15%, (па акругах: ад 10 проц. Менская да 20 проц., Бабруйская, Мазырская, Гомельская—з 3.403,8 тыс. 27 г. да 3 917,2 т. гэкт. 32 г. пашыраецца за кошт распашкі бросавых плошчаў, часткі выгану і перадачы часткі лясных плошчаў у Земфонд).

Засеў пашні павялічваецца з 73.9% да 79,8 проц. у зьвязку з рацыяналізацыяй паляводства.

Зернавыя пасевы пашыраюцца за 5 год толькі 2,4 2,5 проц. Буйна ўзрастае: лён 37,5 проц., канапля 32 проц., корняклубнеплоды 39,5 проц., пасеўныя травы 137,4 проц. Розныя культуры ў, розных раёнах па рознаму павялічваюцца (гл. табліцу). Акрамя таго, вне агульнай пасеў-плошчы павялічваецца падпакроўная сэрадэла да 60 тыс. гэкт., лубін з 47,8 тыс. да 520 тыс. гэктараў.

4. Павялічэньне ўраджайнасьці ўстанаўліваецца па зернавых ад 30 да 42,5% за 5-цігодзьдзе, у зьвязку з выпадзеньнем і скарачэньнем плошчы пасеваў менш ураджайных культур. павялічваецца ураджай на 45 проц. Па тэхнічных культурах на 50 проц., па бульбе—35 проц., палявым травам на 20 проц., естественым сенажацям на 15 проц.

5. Павялічэньне жывёлаводства ідзе з вучотам патрэбнасьці рабочай сілы, з напрамкам разьвіцьця гаспадаркі, а таксама з разьлікам пашырэньня кармавых рэсурсаў: коняй на 10 проц., буйнай рагатай жывёлы на 31,1 проц., сьвіней на 41,7 проц., авечак на 8,2 проц. Узрост стада павінен адпавядаць магчымасьці нармальнай амартызацыі стада і далейшага павялічэньня.

Нагрузка на 1 каня за 5-цігодзьдзе

павялічваецца з 3,63 гэктараў да 4,1 гэкт. пашні ў падлежач. апрацоўцы.

Прадукцыйнай малочнай жывёлы павінна павялічыцца на 25 проц., мясная рагатая жывёла на 9,5 проц., сьвіньі—16,8 у зьвязку зьмены кармавога рэжыму.

Падвышэньне таварнасьці сельск. гаспадаркі з 8,6 да 17,1, таварная частка павялічыцца з 62,8 міл. руб. да 197,4 мл. руб., на 214,4 проц.

Завоз к канцу пяцігодкі ў БССР складае—пшаніцы 185,4 тыс. тон, канцэнтраваных кармоў 26,3 тыс. тон, гавядзіны—20,1 тыс. тон.

Павялічэньне ўраджайнасьці зерневых скарачае іх дэфіцытнасьць у БССР з 321,3 тыс тон да 211,7 тыс. тон.

Галоўная ўвага дзеля ажыцьцяўленьня вышэйпаказаных мерапрыемств грунтуецца на наступным:

а) арганізацыя зямельнай плошчы шляхам землеўпарадкаваўчых і мэліарацыйных работ. інтэсіфікацыя сельскае гаспадаркі;

б) абагульваньне сельскае гаспадаркі шляхям узмацненьня і арганізацыі савгасаў, калектывізацыя і вытворчае каапэраваньне бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак;

в) хэмізацыя і індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі;

г) разьвіцьцё жывёлагодоўлі;

д) разьвіцьцё спэцыяльных галін культур;

е) агратэхнічнае абсугоўваньне сельскае гаспадаркі.

7. Земляўпарадкаваньне ў асноўным к канцу пяцігодкі закончыцца. У лясных прамысловых раёнах яно павінна быць скончана ў першыя 2 гады. У пагранічных раёнах у 2-3 гады. Будзе ахоплена земляўпарадкаваньнем 4.685 тыс. гэкт. Неземляўпарадкаваны застануцца 600-700 тыс. гэкт. у забалочных раёнах, большасьць іх у Мазырскай і Бабруйскай акругах, частка ў Гомельскай, Менскай і Полацкай.

Па нормах земляўпарадкоўваемая тэрыторыя разьмяркоўваецца наступна:

дзяржаўныя гарадзкіх зямель 350 тыс. гэкт., пад калгасамі 662 тыс. гэкт., пад пасёлкамі—3.256 тыс. гэкт., пад хутарамі—417 тыс. гэкт.

Земляўпарадкаваньне павінна быць цесна ўвязана з выдзяленьнем калгасаў і пераводам на шматпольле ўсіх земляўпарадкаваемых.

Капітальныя ўкладаньні на земляўпарадкаваньне выразяцца ў 15 міл. руб. па бюджэту і 14,2 міл. руб. новых укладаньняў на крэдытаваньне разсяленцаў.

8. Мэліарыруецца 510 тыс. гэктараў, каля 20 проц. усіх забалочаных зямель БССР, з іх каля 460 тыс. дэталёва асушаных разьмяркоўваюцца наступна: лясныя плошчы—140 тыс гэкт., плошчы мэліарац. таварыств—200 тыс. гэктараў, дзяржлугфонд—20 тыс. гэкт., калёнізацыйны фонд—100 тыс. гэкт., астатнія—80 тыс. гэкт. яшчэ застануцца недаступнымі для апрацоўкі.

У басэйнах рэк—Арэса, Мароч, Брагінка, Славечка і Убарць мяркуецца выдзеліць 150 тыс. гэкт. калёнізацыйнага фонду, з якіх за 5-цігодзьдзе 100 тысяч гэкт. асушыць, з якіх пайдуць 50 тыс. гкт. пад савгасы, 50 тыс. гэкт. асушыць пад калгасы. Мяркуецца правесьці палепшаньне забалочаных сенакосаў каля 105 т. карэнога і 225 паверхн., акрамя таго 700 тыс. дзес. сухадольных і заліўных лугоў у парадку абавязковых работ, згодна пастановы СНК БССР. Дзяржаўныя ўкладаньні на культуртэхніку будуць 38,2 міл. руб

9. Павялічэньне савгасаў, акрамя паказаных 50 тыс. гэкт., вышукваецца 5 т. гэкт. спэцыяльна дзеля разьвіцьця лубінавага насенаводства, павялічэньне плошчы існуючых савгасаў.

Трэстыраваныя савгасы павінны стаць насенаводнымі базамі 2 і 3 рэпрадукцыі, разьвіцьця племяной жывёлагадоўлі. Арганізацыя пладовых выхавальнікаў.

У ільнаводных раёнах савгасы павінны спэцыялізіравацца на валакністым ільнаводстве і арганізаваць абразцовыя гаспадаркі.

Удзельная вага савгасаў у сельскай гаспадарцы БССР з 1,24 проц. падымаецца да 1,7 проц. Валавая прадукцыя ўзрастае на 124,5 проц. ці з 8.735 тыс. руб. да 19.505 тыс. руб.

10. Калектывізацыя павінна ахапіць 12 проц. усей пасеўнай плошчы БССР па ўстаноўцы XII парт. зьезду. Узрост

калектываў павінен быць з 999 да 4561 гаспадарак, з павялічэньнем тэрыторыі з 94,5 тыс. гэкт. да 756,7 тыс. гэкт. Валавой прадукцыі з 7.533,3 тысяч рублёў 27/28 г. да 141,180,1 тыс. руб. 32/33 г.

Валавая прадукцыя калгасаў падвысіцца з 1,05 проц. да 12,2 проц. і на таварнай да 27,6 проц. Разьмер калгасаў мяркуецца давесьці да 166 гэкт. супроць 97 гэкт. сучасных.

Тэхнічнай базай калгасаў у ССРБ зьяўляецца правідловая арганізацыя інтэнсіўнай пладазьменнай гаспадаркі, з мэханізацыяй і абагуліваньнем сядзібных работ. Фінансаваньне калгасаў за пяцігодзьдзе выразіцца 96.000 тыс. руб. На многапольле павінна перайсьці з 551 т. гэкт. пашні да 2,688 т. гэкт. ня менш 50% земляўпарадкаваных гаспадарак.

11. Вытворчае каапэраваньне к канцу пяцігодзьдзя павінна ахапіць 79,6 проц. сялянскіх гаспадарак.

У галіне мэханізацыі і машынаснабжэньня: канчатковае зьнішчэньне сох, драўляных барон, распаўсюджваньне акучнікаў, цялег на залезным хаду, малацілак, веялак, сарціровак, саламарэзак і г. д. і поўная рэканструкцыя складу с/г машын на новай энэргічнай базе трактарнай і электра-маторнай цягі, завоз трактараў у БССР, запраэктаваны 2300 шт: 575 саўгасам, 1470 дзеля калгасаў, 255 мэліарацыйным і машынным таварыствам.

12. У зьвязку з разьвіцьцём у БССР технічнай і таварнай прадукцыі патрабуецца значная колькасьць тэхнічных прадпрыемств, намечаецца павялічэньне ў малочнай прамысловасьці да 303 палепшаных і 247 саматужных масладзельных і масласыраварэных заводаў і 160 малочных пунктаў. Пабудова 5 гарадзкіх малочных у Менску, Гомелі, Магілёве. Віцебску і Бабруйску, БСТ будуе 102 прадпрыемств: Малочна-Жывёлагадоўчы саюз—605 прадпрыемств.

12. У бульба-апрацоўнай прамысловасьці павялічыць вінакураных заводаў з 65 да 73 і крухмальна-сушыльных, крухмальна-тарачных і бульба-сушыльных з 130 да 180.

Па первічнай пераапрацоўцы ільну 10 заводаў: 2 у Полацкай, 3 у Віцебскай, 2 у Аршанскай, 2 у Магілёўскай і 1 на калфондзе ў Мар'іна ці Брагіна.

Мяркуецца пабудова 14-15 буйных камбінаваных заводаў па плода-овашчной прамысловасьці і 2 заводы па клюквенаму экстракту.

У мясной прамысловасьці пабудаваць 2 халадзільнікі—Гомель і Віцебск, заканчаньне Аршанскага камбінату, бэконная фабрыка ў Гомелі, пабудова 3-х калбасных фабрык.

Па яічна-птушкавай прамысловасьці —5 камбінатаў, 3 самастойных і 2 дадатковых пры маючыхся халадзільніках.

І асабіста стаяць 5-6 торпа-падсьцілачныя заводы. Сумесна з саматужнымі заводамі прадугледжана скарыстаньне торпа на ўгнаеньне 702 тыс. куб. На пабудову с/г індустрыі з боку дзяржавы патрабуецца 26,5 міл. руб.

13. Павялічэньне мінэральных угнаеньняў прадугледжваецца замест 51 тыс. тон у 28/29 г. да 909 тыс. тон у 32/33г. з угнаеньнем у 32/33 годзе 850 тыс. гэкт. —21,7 процан. пасеўплошчы і фасфараваньне 517 тыс. гэкт., 13,2 проц. пасеўплошчы: вапнаваньне давесьці да 750 тыс. гэкт., каля 15 проц. пасеўплошчы.

Зернаачышчэньне павінна ахапіць увесь пасеўны матар'ял. Плошча пасеву сартавога насеньня складае 176,3 тыс. гэкт. так, каб к канцу пяцігодкі забясьпечыць пасеў імі 590 тыс. гэктараў, што складае сумесна 19,5 проц. пасеўплошчы, з палепшаным насеньнем павінна быць 77,7 проц. пасеўплошчы, ці 3.042,8 тыс. гэктараў.

Для выкананьня дырэктывы—45 проц. падвышэньня ўраджайнасьці патрабуецца шэраг мерапрыемстваў: палепшаньне апрацоўкі глебы, увядзеньне палепшаных пароў, збор і выкарыстаньне попелу і г. д.

14. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў галоўным залежыць ад кармавой базы, пагэтаму, акрамя вышэйпаказаных мерапрыемств, неабходна разгарнуць масавае сіласаваньне, лепшую падрыхтоўку кармоў, палепшаньне сыстэмы і мэтадаў кармленьня. Распаўсюджваньне саламарэзак і корнярэзак.

Для конзаводаў і канюшняў закупліваецца да 840 племяных коняй, пабудова 100 пунктаў штучнага апладатварэньня.

Па буйнай рагатай жывёле павялічваецца колькасьць плямгасаў да 10 у Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай ці

Мазырскай акругах з лепшымі породамі, павялічэньне племяных бугаёў і пашырэньне злучных пунктаў.

Па племяной сьвінагадоўлі за пяцігодзьдзе павінна быць да 20 заводаў і 275 расаднікаў з матачным складам, у першых 890 галоў, у другіх—1930 галоў. Павінна ісьці сплашная мэцізацыя сьвіней БССР: буйных белых, ангельскіх сьвіней.

Па птушкаводству мяркуецца мець 4 буйных плем. гаспадаркі і шэраг дробных расаднікаў у саўгасах, калгасах і с/г каапэрацыі. У племяную працу па ўсіх галінах жывёлаводства павінна быць уцягнута ўся сыстэма трэсьціраваных гаспадарак.

15. Павялічэньне вэтвучасткаў прадугледжваецца да 329, замест маючыхся 126 вэт. устаноў і 51 вэт. фэльчарскіх пунктаў, з тым, каб радыус абслугоўваньня не правышаў 11-13 кілёмэтраў. Замена ўсіх фэльчарскіх пунктаў вэтэрынарнымі вучасткамі. Пабудова ў кожнай акрузе 1 вэт. лячэбніцы. Павялічэньне ўрачэй па барацьбе з эпідэміямі да 30, бактэрыялёгічных лябораторый да 6 і габінетаў да 35.

16. З спэцыяльных культур і галін для БССР мае большае значэньне льнаводства, садоўніцтва і рыбная гаспадарка.

Лён мае асабістае значэньне, ільнаводныя раёны павінны быць земляўпарадкаваны ў першыя 2 гады і пераведзены на шматпольле к 1930/31 г., поўная замена насеньня сартавым матар'ялам. Поўнае ўгнаеньне на 100 проц. пасеўплошчы штучным угнаеньнем. Разьвіцьцё кантрактацыі да 37 проц. усей плошчы, разгортваньне тэхнічных прадпрыемств і ільно-каапэрацыі.

Пладовыя пітомнікі замест 247 гэкт. павялічваюцца да 430 гэкт. з выпускам 1100 тыс. сажанцаў, на закладку новых садоў у калгасах—3400 гэкт., саўгасах—300 гэкт., групавых садоў—3000 гэкт., барацьба са шкоднікамі, арганізацыя спэцыяльна садоўнічай каапэрацыі і шэраг тэхнічных мерапрыемств. Увядзеньне працаёмкіх культур (хмельнікі, ягадныя культуры, табак, лекавыя і інш.).

Па рыбнай гаспадарцы прадугледжваецца пашырэньне прудоў да 9800 гэкт. замест маючыхся 1968 у 27/28 г., колькасьць рыбаводных гаспадарак павялічыцца з 9 да 14, колькасьць рыбаводных заводаў і пітомнікаў з 3 да 14, што павялічыць рыбную гаспадарку з 3,4 міл. руб. да 4,5 міл. руб.

17. У правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў набывае асаблівае значэньне арганізацыя дастаткова шырокай, гібкай, прыстасаванай к удзелу ў асноўных працэсах рэканструкцыі сельск. гаспадаркі, аўтарытэтнай у вачох бедняцкіх і серадняцкіх мас сялянств агранамічнай сетцы.

Разьмер агравучастку для абслугоўваньня аграномам насельніцтва давозіцца да 10 кілёметраў, замест існаваўшых 20 кіл., такім чынам, к канцу пяцігодзьдзя лік агравучасткаў будзе 404 супроць 194, маючыхся у 27/28 годзе. Колькасьць аграраёнаў застаецца 101, аграпэрсаналу павялічваецца з 492 да 828 чал. толькі па аграсетцы.

У с/г каапэрацыі з 38 адзінак 27-28 г, павялічваецца да 212 у 32/33 г., па калгасах з 47 адзінак да 393 адзінкі.

Штат аграпэрсаналу павялічваецца ў адносіне да 1927/28 г. па аграсетцы на 87,3 проц., па каапэрацыйнай—446 проц., па калгаснай—736 проц.

Для абслугоўваньня спэцыяльных галін агрпэрсанал павялічваецца з 13 % да 25 проц. К канцу пяцігодзьдзя закончыцца пабудова аграпунктаў ва ўсіх 101 раёнах. Прадугледжваецца пабудова 80 тыпавых аграпунктаў і 33 пры агравучастках. Асабліва павінна зварочвацца ўвага на падвышэньне кваліфікацыі, палепшаньне матар'яльнага становішча аграпэрсаналу, павялічэньне сродкаў перасовок, аслабаненьне ад старонньяй працы.

Павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на разьвіцьцё дзейнасьці Навукова-Дасьледчага Ін-та сельскае і лясное гаспадаркі імя т. Леніна, забесьпячэньне сродкамі і навуковымі сіламі з тым, каб к канцу пяцігодкі скончыць у ім арганізацыю станцый і лябараторый—1) Менскай расьлінаводнай, 2) Цэнтральнай бульбяной, 3) Цэнтр. абароны расьлін, 4) Гомельскай садова-гароднай, 5) Менскай Балотнай, 6) Палес. Балотнай 7) Махавое балотнае поле, 8) Мэліарацыйна-Гідратэхнічная станцыя, 9) Цэнтр. стан-

цыя буйнай рагатай жывёлы, 10) Гідралес. мэліарацыйная, 11) Цэнтральная сьвінаводная станцыя, 12) Біохэмічная лябараторыя, 13) Цэнтр. Лясная станцыя, 14) Цэнтр. хэмічн. лябараторыя.

Побач з інстытутскімі ўстановамі павінна працаваць сетка раённых станцый НКЗБ. 1) Горацкая с.-г. Дасьледчая станцыя, 2) Віцебская, 3) Тураўская, 4) Полацкая песчаная, 5) Магілёўская лёнавых расьлін, 6) Менская машына-сборная, 7) Забалоцкая гаспадарка.

Арганізацыйна-навукова-дасьледчыя і вопытныя станцыі ў сваей працы павінны цесна ўвязацца з усей практычнай працай праз аддзелы прыстасаваньня, сялян вопытнікаў, з агранамічнай сеткай і г. д.

На ўсе мерапрыемствы з боку дзяржавы патрабуецца 386 міл. руб., акрамя ўтрыманьня Інстытуту імя У. І. Леніна. Улічваючы зварот крэдытаваньня патрабуецца 280 міл. руб. на наступнее:

| | Міл. р. | Проц |
|---|---|---|
| па земляўпарадкаваньню і перасяленьню | 37,9 | 13,5 |
| па мэліарацыі і торпаздабываньню | 41,4 | 14,8 |
| па сельскаму будаўніцтву | 34,0 | 12,2 |
| па машынна-снабжэньню | 18,9 | 6,7 |
| па расьлінаводству | 56,0 | 20,1 |
| па жывёлагадоўлі і вэтэрынарыі | 26,0 | 9,3 |
| па індустрыялізацыі і элэктрафікацыі | 30.8 | 11,3 |
| па новых савгасах | 12.0 | 4,0 |
| па арганізацыі проблем (Аграсетка, Навукова-Вопытныя справы, адміністрацыйны апар. | 22.0 | 8,1 |
| | 280,0 | 100 |

Па фінансаваньню сума разьмяркоўваецца:

| | Міл р. | Проц. |
|---|---|---|
| саюзны бюджэт | 48,4 | 17,3 |
| рэспубліканск. бюджэт | 74,0 | 26,4 |
| мясцовы бюджэт. | 20,2 | 7,2 |
| сыстэма с-г. крэдыту | 137.4 | 49,1 |
| | 280,0 | 100 |

Апрача таго, з боку насельніцтва і вытворчых арганізацый будзе ўкладзена ўласных сродкаў у мерапрыемствы, фінансіруемыя дзяржавай, у суме 150.1 міл. руб., ня лічучы звароту крэдыту.

## Суадносіна культур у акругах БССР у пачатку і канцы 5-годзьдзя 1927-28 г.—1932-33 г.

(у тыс.)

| Культуры: | Менская | | Бабруйская | | Аршанская | | Віцебская | | Мазырская | | Полацкая | | Магілёўская | | Гомельская | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 82-33 | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 32-33 | 27-28 | 32-33 |
| Зернавыя | 75,4 | 67,5 | 75,3 | 69,5 | 77,5 | 68,5 | 73,8 | 64,5 | 80,7 | 75,0 | 76,0 | 69,7 | 77,4 | 67,6 | 73,8 | 65,5 |
| Лён | 2,8 | 2,0 | 3,4 | 3,0 | 4,4 | 6,0 | 5,3 | 9,0 | 2,8 | 3,0 | 6,2 | 8,0 | 4,5 | 5,5 | 4,1 | 5,0 |
| Канапля | 0,5 | 0,5 | 0,6 | 1,5 | 1,0 | 1,0 | 0,4 | 0,3 | 1,1 | 2,0 | 0,5 | 0,3 | 1,6 | 1,6 | 1,8 | 1,5 |
| Бульба і корань плоды | 12,5 | 18,0 | 15,5 | 18,0 | 11,4 | 14,5 | 11,2 | 12,5 | 14,0 | 16,0 | 10,7 | 12,0 | 12,4 | 16,3 | 17,6 | 21,0 |
| Канюшына | 4,1 | 8,0 | 2,4 | 5,0 | 2,3 | 6,0 | 3,7 | 8,0 | 0,3 | 1,0 | 1,9 | 5,0 | 1,3 | 5,0 | 0,2 | 3,0 |
| Віка | 2,2 | 4,0 | 1,6 | 3,0 | 2,9 | 4,0 | 3,6 | 6,0 | 0,2 | 3,0 | 4,0 | 5,0 | 2,1 | 4,0 | 1,5 | 4,0 |

# ДЫНАМІКА

## Асноўных паказацеляў па сельск. гаспадарцы за 5-годзьдзе 1927-28 г.—1932-33 г. па акругах.

(у тыс.)

| Акругі: | Пасеўная плошча | | | Коні | | | Буйн. рагат. скаціна | | | Сьвініна | | | Авечкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 27-28 | 32-33 | Проц. рост | 27-28 | 32-33 | Проц. рост | 27-28 | 32-33 | Проц. рост | 27-28 | 32-33 | Проц. рост | 27-28 | 32-33 | Проц. рост. |
| Полацкая | 234,8 | 308,0 | 12,1 | 82,2 | 89,6 | 9 | 162,4 | 211,1 | 30 | 138,4 | 180,[illegible] | 30 | 247,0 | 267,0 | 8,1 |
| Віцебская | 360,8 | 404,0 | 12,0 | 106,9 | 115,5 | 8 | 220,1 | 286,1 | 30 | 158,3 | 206,0 | 30,1 | 333,0 | 366,4 | 10,0 |
| Аршанская | 415,9 | 479,0 | 15,2 | 134,2 | 147,5 | 10 | 202,8 | 273,8 | 35 | 259,3 | 363,0 | 40 | 358,1 | 386,8 | 8 |
| Менская | 636,8 | 701,0 | 10,1 | 167,6 | 179,3 | 7 | 339,7 | 458,6 | 35 | 398,6 | 597,9 | 50 | 451,0 | 479,0 | 5,1 |
| Магілёўская | 606,8 | 694,2 | 14,4 | 213,0 | 228, | 7 | 329,5 | 428,3 | 30 | 485,4 | 679,4 | 40 | 644,8 | 703,2 | 9 |
| Бабруйская | 496,4 | 596,0 | 20,1 | 168,5 | 188,7 | 12,2 | 364,1 | 487,8 | 34 | 407,9 | 606,4 | 48,7 | 483,3 | 522, | 8 |
| Мазырская | 213,9 | 257,0 | 20,1 | 61,2 | 73,5 | 20 | 325,4 | 405,8 | 24,7 | 195,7 | 254,5 | 30 | 289,9 | 313,5 | 8,1 |
| Гомельская | 398,4 | 478,0 | 20,0 | 162,0 | 183,1 | 13 | 313,3 | 407,3 | 30 | 293,8 | 426,0 | 45 | 431,7 | 474,0 | 9,8 |
| ПА БССР | 3403,8 | 3917,2 | 15 | 1095,6 | 1205,2 | 10,0 | 2257,3 | 2958,8 | 31,1 | 2837,4 | 3313,3 | 41,7 | 3239,1 | 3506,9 | 8,2 |

**2. Аб складаньні каштарысаў нізовых ячэяк саюзу на 2-ое паўгодзьдзе 1929 г.**

Усе нізовыя саюзныя органы, як рабачкомы, мясцкомы, сельрабачкомы, камслужы і прафупаўнаважаныя, павінны скласьці каштарысы на 2-ое паўгодзьдзе г. г., гэта значыць на тэрмін з 1 ліпеня 1929 г. па 1 студзеня 1930 г.

Каштарысы складаюцца на блянках формы № 10 і ніякіх зьмен супроць першага паўгодзьдзя ў парадку складаньня каштарысаў не маецца. Каштарысы ў 2-х экзэмплярах, абгавораныя ня рабачкоме і агульным сходзе членаў саюзу, высылаюцца на зацьверджаньне ў Акраддзяленьне саюзу, а рабачкомы Менскай акругі—у ЦП саюзу не пазьней, чым к 25-му чэрвеня г. г.

Каштарысы павінны разглядацца і зацьверджацца ў Акраддзяленьнях у 10-цідзённы тэрмін і на пазьней 5-га ліпеня каштарысы павінны быць адасланы на месцы.

У рабачкомах савгасаў сродкі разьмяркоўваюцца па каштарысу па аргфонду і культфонду ў разьмеры, агавораным калдэгаворам. У рабачкомах лясьніцтв, дзе рабачкомы атрымоўваюць усяго 1 проц. на ўтрыманьне рабачкому і на культпрацу, дык 1/2 проц адносіцца ў агрфонд і 1/2 проц. у культфонд.

Як у рабачкомах савгасаў, так і ў рабачкомах лясьніцтв трэба пабудаваць каштарысы так, каб з агрфонду значную частку грошай пералічыць у культфонд з такім разрахункам, каб ня менш 60 проц. усяго бюджэту рабачкому пайшло на культпрацу сярод членаў саюзу.

У сельрабачкомах, местачковых рабачкомах, рабачкомах лесарубаў і сплаўшчыкаў, торпараспрацовак і інш. трэба пабудаваць каштарыс з такім разрахункам, каб ня менш 50 проц пайшло на культпрацу сярод працуючых.

Так як пры гэткай устаноўцы амаль што ўсе сельрабачкомы будуць дэфіцытнымі па аргфонду, то гэтыя дэфіцыты павінны пакрываць датацыяй Акраддзяленьні саюзу.

Каб Акраддзяленьні мелі фонд датацыраваньня сельрабачкомаў, неабходна частку процантных налічэньняў ад лесазагатоўчых арганізацый, якія выплачваюцца на часовых і сэзонных рабочых, уносіліся-б у Акраддзяленьне саюзу.

Гэту частку процантных налічэньняў Акраддзяленьні могуць скарыстоўваць выключна на датацыраваньне сельрабачкомаў.

Ёсьць шэраг культмерапрыемств, якія кожны рабачком паасобку ня можа прэводзіць; напрыклад: абслугоўваньне кіно-перасоўкамі, культперасоўкамі, вандроўным тэатрам, рознымі курсамі (прафкурсамі, рабфакі, вайсковыя школы і г. д.). Для гэтых мэт Акраддзяленьні могуць узяць з сродкаў нізовых ячэяк, пасьля здавальненьня мясцовых патрэб, некаторую суму для агульнага культабслугоўваньня. Аднак, гэтыя сродкі на агульнае культабслугоўваньне ня могуць перавысіць 10 проц. усяго прыходу культфонду рабачкому.

Акраддзяленьні складаюць сводкі зацьверджаных каштарысаў н і з о в ы х ячэяк і ў перадку складаньня фінсправаздач нізовых ячэяк, згодна інструкцыі, надрукаванай на звороце фінсправаздачы № 17, і не пазьней 15 ліпеня прадстаўляюць у ЦП саюзу для ведама.

Каштарысы па фонду беспрацоўных таксама складаюцца на тэрміны з 1-га ліпеня па 1-е студзеня і таксама высылаюцца на зацьверджаньне.

Каштарысы па фонду беспрацоўных складаюць толькі сельрабачкомы, местачковыя рабачкомы, стала існуючыя лесарубкомы і інш., ЗА ВЫКЛЮЧЭНЬНЕМ РАБАЧКОМАЎ САВГАСАЎ І ЛЯСЬНІЦТВ. Тым саюзным ячэйкам, якім фонд беспрацоўных не дазволена скарыстоўваць на месцы, дык яны павінны перасылаць гэты фонд разам з членскімі ўзносамі ў вышэйстаячы саюзны орган.

Рабачкомам савгасаў і лясьніцтв ў выключных выпадках можа быць дазволена скарыстаньне фонду беспрацоўных на месцы.

Сводка па фонду беспрацоўных нізовых ячэяк, куды ўключаюцца прыход і расход па самому Акраддзяленьню, прысылаць у ЦП саюзу не пазьней 20 ліпеня г. г.

Старшыня ЦП саюзу **Вайтэнкаў**
Скарбнік ЦП **Аскерка**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнік яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

